НУ І НУ!

# 58-гадовы Лявон Анацка рыхтуецца прабегчы 5 тысяч кіламетраў

*Абавязковая ўмова арганізатараў ультрамарафону – трэба мець 12 пар абутку.*

Да нядаўняга часу Лявон Анацка працаваў на Лідскай абутковай фабрыцы. Каля 20 гадоў ён узначальвае лідскі філіял ГА «Таварыства беларускай мовы».

Пяць гадоў таму лідчанін захапіўся марафонскім бегам, а ў 2015-м упершыню адважыўся на 12-гадзінны ультрамарафон, які праходзіў у Маладзечне. За чатыры наступныя гады прабег больш за 40 звышмарафонаў – амаль 30 тысяч кіламетраў. Гэта больш за палову даўжыні зямнога экватара.

У мінулым годзе Анацка паспяхова фінішаваў у 10-сутачным забегу ў Нью-Ёрку. За гэты час Лявон прабег 1078,875 кіламетра і стаў другім у абсалютным заліку спаборніцтваў, хаця перад забегам ставіў мэту прабегчы не менш за 1000 кіламетраў.

На пачатку гэтага года Лявон Анацка падчас ультрамарафонскага забегу ў амерыканскай Арызоне за 10 сутак прабег 1011 кіламетраў. Пераадолець такую адлегласць змаглі толькі 37 чалавек ва ўсім свеце, і беларусаў сярод іх яшчэ не было.

Зрэшты, нездарма кажуць: чалавечыя здольнасці не маюць межаў…

– Яшчэ калі пра каранавірус наогул нічога не было чуваць, я пачаў рыхтавацца да ультрамарафону, які павінен прайсці ў Нью-Ёрку летам гэтага года, – кажа **Лявон АНАЦКА.** – Нават амерыканскую візу ўжо паставілі ў пашпарт.

Спаборніцтвы, калі не будуць адменены, стартуюць 14 чэрвеня, фініш – 4 жніўня. Гэта самы вялікі марафон, які будзе працягвацца 52 дні. За гэты час трэба прабегчы 3100 міль (каля 5 тысяч кіламетраў).

**– Вы пераадольвалі калі-небудзь такую неверагодную дыстанцыю?**

– Не, такую дыстанцыю беларусы яшчэ ніколі не бегалі, і я буду наогул першы, каго запрасілі на такі старт. Так што паспрабую ўзяць і гэтую вышыню.

**– Прабегчы 5 тысяч кіламетраў – гэта здароўе трэба мець…**

– Ведаеце, усё адносна. Асабіста для мяне чым большая дыстанцыя, тым лягчэй бяжыцца. Напрыклад, бегчы 10 дзён куды лягчэй, чым суткі. У свеце за тыя 23 гады, што праводзіцца гэты ультрамарафон, 5000 кіламетраў здолелі прабегчы 44 чалавекі.

Напэўна, маральна больш складана настроіць сябе на тое, што бегчы давядзецца амаль два месяцы. Але, як жартаваў адзін фінскі паштальён, які два разы перамог ва ультрамарафоне, добрая дыстанцыя – гэта тая, пасярод якой ужо можна пастрыгчыся.

Таму, калі паштальён з Фінляндыі можа прабегчы 3100 міль, то чаму гэта не магу зрабіць я? Мне галоўнае на старт выйсці, а там разбяромся. Я наогул разлічваю яшчэ і які-небудзь прыз узяць.

**– Нейкія патрабаванні ад арганізатараў ёсць, каб удзельнічаць у такім грандыёзным спартыўным старце?**

– Трэба, безумоўна, заплаціць пэўны грашовы ўнёсак, але што самае цікавае – удзельнікі марафону ў абавязковым парадку павінны мець 12 пар красовак для бегу. Таксама неабходна мець



медыцынскую даведку, якую я ўжо даслаў арганізатарам. Прайшоў абследаванне, урачы сказалі: «У норме!»

**– А 12 пар абутку ўжо набылі?**

– Новы купляць не буду, бо гэта і не трэба. Увогуле, я планую паехаць у Амерыку раней і там набыць абутак. Там ёсць крамы, дзе за 10–20 долараў можна купіць вельмі прыстойныя красоўкі менавіта для бегу на доўгія дыстанцыі.

Я ведаю, што некаторыя падчас ультрамарафону могуць змяніць і 18 пар абутку, але ў мяне свая тактыка. Красоўкі мяняю праз кожныя тры гадзіны, каб амартызацыя была нармальная.

Дарэчы, абутак павінен быць адмысловы, абы ў чым не пабяжыш. Але ўсё залежыць і ад многіх іншых фактараў: ад настрою, надвор'я, тэмпу. Калі 12 пар маеш, то бегчы значна прасцей, не так ногі стамляюцца.

**– Вы ж працавалі раней на Лідскай абутковай фабрыцы. Можа, варта было б заключыць пагадненне аб супрацоўніцтве?**

– Я раней бегаў у красоўках нашай фабрыкі, але для ультрамарафону яны ўсё-такі не падыходзяць. Цяжкаватыя, доўга ў іх не пабегаеш.

**– З-за каранавіруса старты могуць адмяніць…**

– Безумоўна, ніхто ж не ведае, якая сітуацыя будзе ў чэрвені. Я пакуль настроены на ўдзел у спаборніцтвах і рыхтуюся да лепшага. І горшага не баюся – усе мы не бессмяротныя.

**– Днямі вы сустракаліся са старшынёй Федэрацыі лёгкай атлетыкі Вадзімам Дзевятоўскім. Задаволены вынікамі?**

– Найперш хачу адзначыць, што кіраўнік федэрацыі размаўляў са мной на беларускай мове, і гэта вельмі ўсцешыла. Я распавёў пра нашы планы правесці чэмпіянат Беларусі па сутачным бегу, гэта для марафонцаў вялікая падзея. Інфармацыя была ўспрынята даволі пазітыўна.

**Алесь СІВЫ.**

АНШЛАГ!

## Каля 20.000 гледачоў ва ўсім свеце паглядзелі легендарную «Паўлінку» Купалаўскага тэатра

*Анлайн-паказ быў прымеркаваны да Міжнароднага дня тэатра.*

Дзякуючы гэтай трансляцыі «Паўлінка» аб'яднала ўсіх беларусаў свету! Online-паказ глядзелі ў ААЭ, Азербайджане, Арменіі, Бельгіі, Грузіі, Германіі, ЗША, Ізраілі, Іспаніі, Казахстане, Канадзе, Кыргызстане, Латвіі, Літве, Пакістане, Партугаліі, Польшчы, Расіі, Славакіі, Турцыі, Украіне, Францыі, Японіі і іншых краінах.

Агулам каля 20.000 чалавек за адзін вечар аб'ядналіся для прагляду сапраўднага шэдэўра беларускай класікі!

ШАХМАТЫ

## Сумесны твор




Аўтары задачы-мініяцюры – Ул.Шматаў і А.Мельнічук *(гл. дыяграму).*

**Белыя:** Крс4, Фh3, Лf4, Лh5, п.е6 (5).

**Чорныя:** Кра4, Cg3 (2).

**Мат за 2 хады.**

Дасылайце рашэнні на адрас рэдакцыі ***(220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а)*** або на электронны адрас: ***vadim_ne67@mail.ru.***

## Пад верхавінай айсберга

Звычайна рашальнікі, аналізуючы тую ці іншую задачу, шукаюць толькі шлях да мата. Але сучасныя кампазіцыі, найперш двуххадоўкі, складаюцца з некалькіх частак (іх называюць фазамі), якія звычайна заўважаюць больш вопытныя кампазітары. Разгледзім для прыкладу задачу беларускага майстра ***Міхаіла Храмцэвіча*** і ўкраінскага складальніка ***Васіля Маркоўцыя***, што атрымала ганаровы водгук на гадавым конкурсе расійскага часопіса «Шахматная кампазіцыя».

**Белыя:** Крb3, Фd7, Лd2, Лh2, Ca1, Ce2, Kd4, Kd5, п.f4 (9).

**Чорныя:** Kpe4, Ce5, Kc3, Kg5, пп. b4, f6 (6).

**Мат за 2 хады.**

Напачатку ўжо ёсць некалькі варыянтаў з гатовымі матамі (калі б у задачы пачыналі чорныя) – гэтак званая ілюзорная гульня: 1...Кс~ 2.Cd3x(A), 1...К:е2 2.Лh:e2x, але 1...К:d5!(a); 1... С~ 2.Фf5x(B), але 1...С:d4!(в). Маецца і падманны след: 1.Крс4? ~ 2.Cd3x(A), Фf5x(B), 1...С:d4(в) 2.Л:d4x, але 1...К:d5!(a). А рашае 1.Лh3! ~ 2.Ле3х, 1...К:d5(a) 2.Фf5x(B), 1...С:d4(в) 2.Cd3x(A), 1... Kf3/К:h3 2.C:f3x (1...Kd1 2.Cd3x, 1...C:f4/Cd6 2.Фf5x). Як бачым, некаторыя хады (яны пазначаны літарамі ў дужках) паўтараюцца або чаргуюцца ва ўсіх гэтых фазах. Не будзем надта паглыбляцца ў кампазіцыйную «алгебру», адзначым толькі, што ў задачы рэалізаваны сінтэз некалькіх вядомых тэм.

## Дзесяць і чатыры

Завяршыўся чэмпіянат Беларусі сярод шахматыстаў да 20 гадоў. У юнакоў сярод 10 удзельнікаў былі два міжнародныя майстры і пяць майстроў ФІДЭ. Перамог міжнародны майстар ***Міхаіл Нікіценка*** – 7,5 бала з 9 магчымых, другое месца заняў майстар ФІДЭ ***Дзяніс Лазавік*** – 7, трэцяе – міжнародны майстар ***Вячаслаў Зарубіцкі*** – 6,5 бала.

У дзяўчат чатыры ўдзельніцы гулялі паміж сабой па дзве партыі. Першае месца заняла ***Варвара Палякова*** – 4 балы з 6. На другім месцы – ***Ганна Сташыс*** – 3,5, на трэцім – ***Ксенія Норман*** – 3 балы.

***Міхаіл Нікіценка – Максім Царук***

1.c4 e5 2.g3 Kf6 3.Cg2 d5 4.cd К:d5 5.Кс3 Kb6 6.Kf3 Кс6 7.0-0 Ce7 8.b3 0-0 9.Cb2 f5 10.Лс1 Cf6 11.d3 Kd4 12.Kd2 c6 13.e3 Ke6 14.Kf3 a5 15.Ка4 Kd7 16.Ch3 g6 17.e4 b5 18.ef Kg5 19.К:g5 C:g5 20.f4 ef 21.fg hg 22.Л:c6 Ла6 23.Л:а6 C:a6 24.Кс3 Кс5 25.Ке4 К:е4 26.de b4 27.Ф:d8 Л:d8 28.Лf2 Лd1+ 29.Kpg2 Cb7 30.Ce6+ Kph7 31.Kpf3 Лd3+ 32.Kpg4 Ch6 33.Лс2, 1:0.

***Ксенія Норман – Варвара Палякова***

1.c4 d5 2.cd Kf6 3.d4 К:d5 4.e4 Kf6 5.Кс3 e6 6.Kf3 Ce7 7.Cb5+ c6 8.Cd3 Kbd7 9.0-0 h6 10.Cc2 b6 11.d5 cd 12.ed Kf8 13.Ca4+ K6d7 14.Ke5 Фс7 15.Cf4 Фс5 16.de fe 17.Ke4 Фb4 18.Cc6 Cf6 19.К:d7 C:d7 20.C:a8 Kg6 21.Фh5 0-0 22.Cd6, 1:0.

## З турнірнай хронікі

У Мінску адбыўся штогадовы Мемарыял Д.Бранштэйна па хуткіх шахматах. Сярод 86 удзельнікаў (амаль усе – з Беларусі, толькі па адным з Расіі, Літвы і Сербіі) было чатыры гросмайстры, тры міжнародныя майстры, шэсць майстроў ФІДЭ і два жаночыя майстры ФІДЭ. Перамог міжнародны майстар ***Валерый Смірноў*** – 8 балаў з 10. Другое-шостае месцы падзялілі гросмайстар ***Юрый Ціханаў***, майстры ФІДЭ ***Яна Ільючык***, ***Ягор Філіпец*** і ***Максім Рунец*** (усе з Беларусі), гросмайстар ***Аляксандр Рустэмаў*** (Расія) – па 7,5 бала. У такім парадку іх размеркавалі дадатковыя паказчыкі.

На традыцыйным турніры «Аэрафлот» у Маскве (97 удзельнікаў) лепшым з беларусаў быў ***Аляксей Аляксандраў*** – пятае месца. Далей ідуць: 22.Уладзіслаў Кавалёў; 43.Вольга Бадэлька (найлепшы паказчык сярод жанчын); 46.Вячаслаў Зарубіцкі; 57.Кірыл Ступак і г.д. Вось адна з перамог беларускага гросмайстра.

***Баадур Джабава – Аляксей Аляксандраў***

1.e4 e5 2.Kf3 Кс6 3.Cc4 Kf6 4.Kg5 d5 5.ed Ка5 6.Cb5+ c6 7.dc bc 8.Ce2 h6 9.Kh3 Cd6 10.d3 Лb8 11.Kd2 0-0 12.Ke4 К:е4 13.de Kb7 14.c3 Фh4 15.Фd3 Ce7 16.Фg3 Кс5 17.f3 Фh5 18.f4 Фh4 19.Kf2 ef 20.Ф:h4 C:h4 21.0-0 C:f2+ 22.Л:f2 g5 23.Cf3 Ле8 24.Лd2 К:е4 25.C:e4 Л:е4 26.Лd8+ Kph7 27.g3 f3 28.Лd2 Ch3 29.Kpf2 g4, 0:1.

## Праверце адказы

Задача ***А.Сыгурава***, змешчаная ў «Народнай Волі» 17 сакавіка, рашаецца: **1.g4! Кр:g4 2.Лg2+, 1…Кр:g6 2.Ла7**. Пазіцыя з партыі – **1.Ле7!**.

Першымі правільна рашылі ***Васіль Жуковіч, Славамір Буката, Сяргей Галкін, Мікалай Шклярэўскі, Ігар Ананіч, Віктар Жук***.

**Вадзім ЖЫЛКО.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Сяргей КАВАЛЕНКА: «Ужо сем гадоў вучуся ў Польшчы…»

*Былы палітвязень працягвае вучобу ў суседняй краіне і працуе ў Варшаве ў кампаніі, якая займаецца дастаўкай ежы на дом.*



**Сяргей Каваленка** праславіўся тым, што ў студзені 2010 года ў Віцебску залез на 35-метровую галоўную ёлку горада і ўзняў над ёй бел-чырвона-белы сцяг. За той учынак яму далі тры гады ўмоўна. У 2012 годзе Каваленка атрымаў два гады і адзін месяц калоніі за парушэнне рэжыму адбывання пакарання. Хлопец вытрымаў галадоўку, якая доўжылася каля двух месяцаў.

*«Я і да гэтага часу ганаруся тым учынкам, калі ўзняў наш нацыянальна-гістарычны сцяг вышэй за камуністычную зорку. Хацеў паказаць беларусам, што нам патрэбна незалежная сімволіка, а не савецкая, што мы – нацыя»*, – кажа Сяргей.

У 2013 годзе актывіст паступіў па «праграме Каліноўскага» вучыцца ва ўніверсітэт прыродазнаўчых і гуманітарных навук у польскім Седльцы. Навучаўся па спецыяльнасці «кіраванне эканомікай», але затым пайшоў у акадэмічны адпачынак.

*«Трэба было нейкім чынам сям'ю матэрыяльна падтрымаць, таму я і вырашыў узяць «акадэмку»,* – тлумачыць Сяргей. – *Працаваў будаўніком у Варшаве. Я і раней займаўся прадпрымальніцтвам, рабіў рамонты (праводзіў электрыку, укладваў плітку), вось і прыйшоў да таго, што вучоба вучобай, але ж неабходна і дваіх дзяцей на ногі падымаць.*

*У Беларусі рамантаваў прыватныя кватэры, але з-за крызісу цэны на рамонтныя паслугі вельмі знізіліся – практычна ў два разы. Вымушаны быў з'ехаць на заробкі ў Польшчу.*

*У Варшаве займаўся электрыкай у новабудоўлях. Фірма аплачвала работу, а знайшоў яе з дапамогай украінскіх гастарбайтараў, якіх тут было даволі шмат».*

Затым на нейкі час Сяргей Каваленка вярнуўся ў Віцебск, але апошні год ізноў працуе ў Варшаве.

– Таксама працягваю вучобу ў Седльцы, – кажа мой суразмоўца. – Так атрымалася, што вучоба цягнецца ўжо сем гадоў, але ж былі акадэмічныя адпачынкі. Шмат часу прапусціў, бо дадому ездзіў.

Зараз засталася абарона дыплома, будзем спадзявацца, што ў гэтым годзе ўсё атрымаецца. Шчыра кажучы, за гэтыя гады ўжо ахаладзеў да вучобы, хаця скончыць ВНУ – гэта для мяне ўжо справа прынцыпу. А ўвогуле, у мяне апошнім часам з'явілася вельмі шмат расчараванняў – і ў Польшчы, і ў Беларусі.

**– Зараз, напэўна, бізнес вашай кампаніі запатрабаваны, бо многія заказваюць ежу дадому, каб не падчапіць на вуліцы інфекцыю?**

– Безумоўна, вуліцы ў Варшаве апусцелі, днём практычна нікога няма. І польскія ўлады, і самі палякі вельмі сур'ёзна паставіліся да ўласнай бяспекі. Недаацэнкі сітуацыі няма. А нашаму бізнесу гэта паспрыяла – заказы выраслі ў разы.

І хоць заробак у мяне, можа, і не такі вялікі, як хацелася б, але на жыццё хапае. Тым больш што я сціпла жыву – у хостэле.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ФУТБОЛ

## З ног на галаву

*Прайшлі матчы 2-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*



З-за пандэміі каранавіруса футбол не толькі трапіў у свеце у шэраг дэфіцытных тавараў (чэмпіянаты праводзяцца толькі ў дзвюх краінах – Беларусі і Нікарагуа), але і ў нашым нацыянальным першынстве сёння ўсё перавярнулася з ног на галаву.

У лідарах – тыя, хто зорак з неба ніколі не хапаў, а ўнізе турнірнай табліцы – мінскае «Дынама» і барысаўскі БАТЭ, у якіх пакуль нуль ачкоў. Цуд дый годзе!

Усе вынікі 2-га тура: «Рух» (Брэст) – «Энергетык-БДУ» (Мінск) – 0:1, «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) – «Белшына» (Бабруйск) – 1:0, «Слуцк» – «Дынама» (Брэст) – 0:1, «Славія» (Мазыр) – БАТЭ (Барысаў) – 2:1, «Мінск» – «Дынама» (Мінск) – 3:2 «Гарадзея» – «Шахцёр» (Салігорск) – 0:2, «Нёман» – «Віцебск» – 2:0, «Іслач» (Мінскі раён) – «Смалявічы» – 1:0.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | 2 | 2 | 0 | 0 | 6–3 | 6 |
| Энергетык-БДУ | 2 | 2 | 0 | 0 | 4–1 | 6 |
| Іслач | 2 | 2 | 0 | 0 | 2–0 | 6 |
| Тарпеда-БелАЗ | 2 | 2 | 0 | 0 | 2–0 | 6 |
| Дынама (Бр) | 2 | 1 | 1 | 0 | 2–1 | 4 |
| Слуцк | 2 | 1 | 0 | 1 | 3–2 | 3 |
| Нёман | 2 | 1 | 0 | 1 | 2–1 | 3 |
| Рух | 2 | 1 | 0 | 1 | 1–1 | 3 |
| Шахцёр | 2 | 1 | 0 | 1 | 2–1 | 3 |
| Славія | 2 | 1 | 0 | 1 | 3–4 | 3 |
| Віцебск | 2 | 1 | 0 | 1 | 1–2 | 3 |
| Смалявічы | 2 | 0 | 1 | 1 | 1–2 | 1 |
| Дынама (Мн) | 2 | 0 | 0 | 2 | 2–4 | 0 |
| БАТЭ | 2 | 0 | 0 | 2 | 2–5 | 0 |
| Белшына | 2 | 0 | 0 | 2 | 1–4 | 0 |
| Гарадзея | 2 | 0 | 0 | 2 | 0–3 | 0 |

Фота: fcminsk.by

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 30.03.2020 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 012 экз. Заказ № 888.